*Рэаліі*

# «Забудова» хоча перайсці на прафесійныя рэйкі

ЧЫСЦЬ. Першы трэніровачны збор мясцовыя футбалісты правялі з 20 па 29 снежня. Цяпер працуюць у рэжыме аднаразовых трэніровак. Актыўна гуляць пачнуць недзе ад сярэдзіны лютага, прычым абавязкова на вялікім полі.

На пасяджэнні дырэкцыі ААТ выступленне ў мінулым сезоне прызнана здавальняючым, праўда, з улікам таго фактару, што каманду пакінулі па ходзе чэмпіянату тры вядучыя гульцы. Задача ставіцца ранейшая: выйсці ў першую лігу.

Аналіз сітуацыі паказвае, што летась вышэй у табліцы (за выключэннем, бадай, смаргонцаў) апынуліся каманды, якія існавалі на прафесійных рэйках. Гэта значыць, футбалісты атрымлівалі за сваю гульню зарплату і больш нідзе не працавалі.

Адсюль і галоўная навіна міжсезоння: у "Забудове" ідзе напружаная работа (вядуць яе намеснік гендырэктара па сацыяльных пытаннях **Ніна Дубяга** і начальнік каманды **Мікалай Мятліцкі**) па стварэнні прафесійнага клуба. Як расказаў галоўны трэнер **Аляксандр Гармаза**, канчаткова ўсё высветліцца недзе напрыканцы студзеня. Калі ўсё атрымаецца як след, перад яго хлопцамі паўстане дылема: альбо футбол, альбо іншая работа. Такім чынам, не выключана, што каманду хтосьці пакіне (хутчэй за ўсё, у напрамку Беразінскага), а іх месцы зоймуць новыя людзі.

Планавалася зрабіць і рэканструкцыю стадыёна, аднак часу і магчымасцяў на гэта, відавочна, не хапае.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

*Аматарскі футбол*

# Галубко, Чарняўскі, Абрамовіч...

МАЛАДЗЕЧНА. Перад навагоднімі святамі ў СШ №12 прайшоў турнір па міні–футболе "на прыз другога тысячагоддзя". Удзел узялі 8 каманд: "Кірмаш", "Унікаб", "Тройка", "ДЮСШ–83", "Аўта" (былы "Аўтамабіліст"), "Колас", "Факел" (былы "АВПС"), "Энергетык" (пералічаныя ў адпаведнасці з месцамі ў выніковай турнірнай табліцы; "Тройка" і "ДЮСШ–83" маюць аднолькавыя паказчыкі, таму іх падзел на трэцяе–чацвертае месцы дастаткова фармальны).

Каманда–пераможца атрымала кубак, а гульцы каманд–прызёраў – граматы і невялікія грашовыя ўзнагароды.

Лепшыя гульцы турніру: **Мікалай Абрамовіч**, **Аляксандр Чарняўскі** (абодва – "Кірмаш"), **Уладзімір Галубко**, **Аляксандр Ярашэвіч** (абодва – "Унікаб"), **Мікалай Каладзей** ("Тройка"), **Аляксандр Балаш** ("Аўта"), **Аляксандр Дзівас** ("Колас"), **Сяргей Шульжыцкі** ("Факел").

**Юлія ВАНСЛАЎ.**

*Наш аналіз*

# Усё самае-самае. Лепшае і цікавае




*Лаўрэат 1999 года (па версіі «РГ») Ігар Фартунаў з сябрамі–сапернікамі на адным з міжнародных турніраў.*
ФОТА З АРХІВА ІГАРА ФАРТУНАВА.

**Заканчэнне.**

Успомнім вынікі розных камандных спаборніцтваў. У масавым спорце па-за канкурэнцыяй другое месца прадстаўнікоў Смаргонскага раёна на абласной рабочай спартакіядзе амаль па 20 відах спорту. Што тычыцца выступлення каманд рэгіёна ў рэспубліканскіх чэмпіянатах, дык мы маем усяго чатыры такія калектывы (праўда, два гады таму пры з'яўленні нашага "Сектара спорту" быў наогул толькі адзін): ФК "Маладзечна", ФК "Смаргонь", "Забудова" (Чысць) – усе прадстаўляюць вялікі футбол, "Металург" (Маладзечна) – міні-футбол. Смаргонцаў адзначым за прагрэс у турнірнай табліцы (з леташняга 12 месца перамясціліся ў групе другой лігі на 6), і за найвялікшую колькасць балельшчыкаў на іх матчах. А "Металург" падае станоўчы прыклад, як у наш складаны час трэба ўзнікаць, нібы чорцік з табакеркі, і адразу змагацца за прызавыя месцы ў мацнейшай лізе.

Маленькае адступленне ад тэмы: заклікаю мясцовых кіраўнікоў стварыць у сваіх раёнах каманды рэспубліканскага значэння. Маю на ўвазе, у першую чаргу, баскетбол і валейбол. Шмат дзе ёсць аддзяленні ДЮСШ па гэтых відах. Мы ведаем, што смаргонцы, маладзечанцы, валожынцы і віляйчане гуляюць у першынстве дзіцячай баскетбольнай лігі. Многа праводзіцца мясцовых турніраў. І не толькі для галачкі, а вось як, напрыклад, у Вілейцы, дзе існуе клуб аматараў валейбола. Літаральна гэтымі днямі мядзельскія валейбалісты ды маладзечанскія і вілейскія баскетбалісткі змагаліся за медалі абласнога чэмпіянату. Барацьба ўжо завяршылася і, напрыклад, маладзечанкі сталі пераможцамі.

На рэспубліканскім узроўні барацьбу вядуць мала каманд, не больш за 10-15, а ў жаночым баскетболе – ўсяго толькі 5. Давайце паспрабуем выставіць сваіх прадстаўнікоў. Можа, нават, нейкую аб'яднаную каманду.

●

Цяпер раздзел найбольш цікавых і буйных спаборніцтваў, што прайшлі сёлета ў рэгіёне. Натуральна, найвялікшы рэйтынг мае чэмпіянат Еўропы па гарадках, які ў жніўні цэлы тыдзень праходзіў у Маладзечне. Далей адзначаем міжнародныя спаборніцтвы па мотакросе ў Ашмянах (верасень), па акрабытыцы ў Вілейцы (чэрвень) і па міні-футболе ў Беразінскім (чэрвень). Нарэшце, шматлікія лёгкаатлетычныя старты ў Маладзечне і раёне: марафон памяці экіпажа Мікалая Гастэлы (май), звышмарафон у манежы (лістапад), прабег "Залатая міля" (снежань).

●

Крыху выбіваюцца з агульнага кантэксту, але, безумоўна, важныя былі міжнародны "Бег міру", што перасек наш рэгіён па дыяганалі, выязная калегія міністэрства спорту і турызму на базе Смаргонскага раёна, візіт ветэранскай каманды знакамітага англійскага "Ліверпуля" ў Валожын.

●

Магчыма, штосьці засталося па-за нашай увагай. Аднак агульны малюнак зразумелы. Спорт у рэгіёне жыве і будзе жыць. І нікуды ён ад нас не знікне. Шчасця, здароўя, спартыўнага выгляду ўсім у Новым Годзе!

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

*Дзіцячая баскетбольная ліга*

# Смаргонцы нарошчваюць перавагу

Прайшлі чарговыя туры на першынстве дзіцячай баскетбольнай лігі. Смаргонскія дзяўчынкі 1986 г. н. пачалі другі круг у Гродне матчамі супраць каманд сваёй групы. Абыгралі ўсіх саперніц (гаспадынь, барысаўчанак і бабруйчанак) і ўпэўнена лідзіруюць.

Праведзена па 10 матчаў. Наперадзе апошні тур. 18-21 студзеня ў Смаргоні будуць гуляць крыж-накрыж, так што засталося па 3 сустрэчы. Пакуль выдатна сябе праяўляе **Юлія Дурэйка**. У трох гродзенскіх сустрэчах набрала 48 ачкоў і лідзіруе ў спісе бамбардзіраў са 180 ачкамі.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | ДЮСШ №1 (Смаргонь) | 20 |
| 2. | ДЮСШ (Бабруйск) | 17 |
| 3. | СДЮШАР-10 (Мінск) | 17 |
| 4. | ДЮСШ (Масты) | 14 |
| 5. | ДЮСШ (Калінкавічы) | 13 |
| 6. | Гарызонт (Мінск) | 13 |
| 7. | ДЮСШ (Барысаў) | 12 |
| 8. | ДЮСШ (Гродна) | 8 |

Там жа, у Гродне, сышліся групы "Б" і "В" хлопцаў 1986 г. н. Смаргонцы і маладзечанцы сустракаліся з калектывамі Гродна, Жлобіна і Светлагорска. Амаль усё выйгралі, толькі маладзечанцы саступілі светлагорцам.

Апошнія матчы адбудуцца ў Гомелі для прадстаўнікоў груп "А" і "В" 18-21 студзеня, усе каманды павінны правесці 11 матчаў.

Добра выглядае смаргонец **Сяргей Кандраценка**. Ён адзін з лідэраў сярод бамбардзіраў, набраў 239 ачкоў.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | ДЮСШ №1 (Смаргонь) | 18 |
| 2. | Аўтазаводзец (Мінск) | 18 |
| 3. | ДЮСШ №1 (Маладзечна) | 15 |
| 4. | СДЮШАР-10 (Мінск) (-3) | 14 |
| 5. | ДЮСШ (Орша) | 14 |
| 6. | ДЮСШ (Валожын) (-3) | 12 |
| 7. | ДЮСШ (Светлагорск) (-4) | 10 |
| 8. | АЗАА (Асіповічы) (-3) | 8 |
| 9. | ДЮСШ (Гомель) (-3) | 7 |
| 10. | БМЗ (Жлобін) (-4 матчы) | 6 |
| 11. | ДЮСШ (Гродна) (-4) | 6 |

Хлопцы 1985 г. н. завяршылі першы круг (праведзена па 9 сустрэч) матчамі ў Мінску. Смаргонцы атрымалі перамогі над маладзечанцамі, віляйчанамі, асіпаўчанамі і гамяльчанамі (ДЮСШ). Саступілі камандзе СДЮШАР-10. Дзве іншыя нашыя каманды прайгралі, да таго ж, "Аўтазаводцу" і Бярозе. Маладзечанцы здолелі перайграць СДЮШАР-9 (Гомель), што не ўдалося віляйчанам. Плюс запісаныя перамогі над жлобінцамі, якія не прыехалі.

Другі круг пройдзе 12-14 студзеня ўнутры груп у Жлобіне і Мінску, а крыж-накрыж каманды сустрэнуцца 13-17 сакавіка ў Смаргоні.

Адзначу гульню маладзечанца **Георгія Крукава**, які набраў 142 ачкі.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | СДЮШАР-10 (Мінск) | 18 |
| 2. | Аўтазаводзец (Мінск) | 17 |
| 3. | ДЮСШ №1 (Смаргонь) | 16 |
| 4. | АЗАА (Асіповічы) | 14 |
| 5. | СДЮШАР-9 (Гомель) | 13 |
| 6. | СШ №3 (Бяроза) | 13 |
| 7. | ДЮСШ (Гомель) | 13 |
| 8. | ДЮСШ №1 (Маладзечна) | 12 |
| 9. | ДЮКФП (Вілейка) | 10 |
| 10. | БМЗ (Жлобін) | 4 |

Вызначаюцца чацвёркі мацнейшых, якія правядуць фінальныя турніры ў красавіку.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

*Баскетбол, валейбол*

# Папялушка-ветэран з гарпасёлка

АСТРАВЕЦ. На працягу снежня праходзілі кубкавыя раённыя турніры.

4-5 у Рымдзюнах змагаліся дванаццаць каманд мужчын-баскетбалістаў. Тройка прызёраў: 1. Астравец 2. Варняны 3. Міхалішкі.

Жанчыны ў баскетбол не гулялі.

Праз тыдзень у Астраўцы высвятлялі адносіны ў валейболе пяць жаночых каманд. Перамагла "Папялушка" з райцэнтра.

18-19 таксама ў Астраўцы сышліся дзевяць мужчынскіх валейбольных калектываў. Тройка прызёраў: 1. "Ветэран" (Астравец) 2. Ст. Гудагай 3. "Вікторыя" (Астравец).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

*Футболпрагноз*

# Весткі з футболпрагнозных «палёў»

МАЛАДЗЕЧНА. Зборная мясцовай Лігі футболпрагнозу няўдала выступіла ў "Навагоднім турніры" у Шчучыне. У 6 праведзеных матчах зафіксаваныя 3 нічые і 3 паражэнні – апошняе месца. Застаўся яшчэ адзін матч, які, зразумела, мала што вырашыць.

У лютым стартуе другі афіцыйны турнір сярод зборных – чэмпіянат Саюза футболпрагнозу Беларусі (СФПБ). У першым чэмпіянаце зборная МЛФП заняла чацвертае месца сярод 12 каманд–ўдзельніц.

У чэмпіянаце МЛФП завяршыўся першы круг. У дужках пасля месца паказанае месца з мінулай публікацыі ў "РГ", №47 (пасля 11 тураў), а пасля набраных ачкоў у дужках паказаная колькасць ачкоў, якія набрала каманда за апошнія 4 туры.

| | | *Пм* | *Н* | *Пж* | *Р/М* | *З* | *А* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 (3) | ФК Казіно | 9 | 2 | 4 | 30:20 | 63 | 29 (10) |
| 2 (5) | Форд | 8 | 3 | 4 | 21:15 | 58 | 27 (9) |
| 3 (1) | Мідлсбро | 7 | 5 | 3 | 25:21 | 60 | 26 (5) |
| 4 (7) | ФК Рэал | 7 | 3 | 5 | 25:23 | 55 | 24 (6) |
| 5 (4) | ФК 1978 | 7 | 3 | 5 | 23:21 | 55 | 24 (6) |
| 6 (2) | Інтэр | 7 | 3 | 5 | 19:20 | 56 | 24 (4) |
| 7 (10) | Метэор | 7 | 2 | 6 | 21:26 | 55 | 23 (9) |
| 8 (9) | Мрака | 6 | 4 | 5 | 19:17 | 56 | 22 (6) |
| 9 (8) | Барбароса | 6 | 4 | 5 | 21:21 | 61 | 22 (6) |
| 10 (6) | Рэал | 6 | 3 | 6 | 26:24 | 54 | 21 (3) |
| 11 (11) | Гётэборг | 5 | 5 | 5 | 29:24 | 61 | 20 (7) |
| 12 (13) | Ліверпуль | 5 | 4 | 6 | 20:22 | 52 | 19 (7) |
| 13 (12) | САШМ | 5 | 1 | 9 | 22:26 | 56 | 16 (4) |
| 14 (15) | ХІК | 3 | 6 | 6 | 18:22 | 53 | 15 (5) |
| 15 (16) | Кайзерслаўтэрн | 2 | 4 | 9 | 15:22 | 46 | 10 (4) |
| 16 (14) | Чарцяня | 2 | 4 | 9 | 13:22 | 50 | 10 (0) |

Уладальнікамі каманд з першай па трэцюю з'яўляюцца **Павел Касцянкоў**, **Сяргей Чурылін**, **Аляксандр Полаз**.

Цяпер каманды знаходзяцца на перапынку. Некаторыя гульцы з МЛФП возьмуць удзел у другім турніры "РГ".

На 4 студзеня пакуль зарэгістравана 18 каманд. Апошні тэрмін прыёму вашых купонаў–заявак – 12 студзеня 2000 года.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**Турнір «РГ»**

*Прозвішча, імя* ..............................

*Дамашні адрас* ..............................

*Дата нараджэння* .................. *Тэлефон* ..................

*Назва вашай каманды* ..............................

*Міні-футбол*

# На фінішнай прамой

СМАРГОНЬ. У сярэдзіне снежня смаргонцы выйгралі абласное першынство, дзе выставілі тры каманды сярод васьмі ўдзельнікаў. Гуляць у міні-футбол тут любяць – ва ўнутрыраённыя спаборніцтвы заявіліся 16 калектываў. Папярэдні этап адбыўся з 1 па 30 снежня. Па трое мацнейшых з дзвюх груп атрымлівалі права на ўдзел у фінальнай пульцы.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Ветэран | 18 |
| 2. | В/ч 75288 | 18 |
| 3. | Надзея | 15 |
| 4. | Пуцеец | 15 |
| 5. | ДЮСШ-85 | 6 |
| 6. | ДЮСШ-2 (трэнеры) | 6 |
| 7. | Спэс | 6 |
| 8. | К-с імя Неўскага | 0 |

| | | |
|---|---|---|
| 1. | СКЗ | 21 |
| 2. | ЗАС | 15 |
| 3. | Сокал (82-83 г. н.) | 15 |
| 4. | АПБ-Вілія | 12 |
| 5. | В/ч 1259 | 12 |
| 6. | ПТВ-128 | 6 |
| 7. | Оскар | 3 |
| 8. | Мікрараён Карані | 0 |

Ветэранам першае месца прынесла перамога над вайскоўцамі 4:2, а важная трэцяя пазіцыя ў "Надзеі", якая абыграла "Пуцеец" 4:3 (дарэчы, за апошніх выступаюць некалькі маладзечанцаў: якраз ім удалося нанесці адзінае паражэнне лідэрам).

Другі радок у другой групе аптычным станкабудаўнікам прынесла перамога 6:4 над выпускнікамі ДЮСШ з "Сокала". З гульцоў добрымі дзеяннямі вылучаюцца хлопцы, якія знаходзяцца "пад асновай" у ФК "Смаргонь". Гэта **Сяргей Жабінскі** (ЗАС), **Яўген Шыдук** (СКЗ), некалькі чалавек з вайсковай часці. За СКЗ і ветэранаў выступаюць больш узроставыя і дасведчаныя футбалісты.

Як расказаў галоўны трэнер ФК "Смаргоні" **Андрэй Майсейчанка**, цяпер шэсць калектываў згуляюць па кругавой сістэме без уліку ранейшых матчаў. Усё скончыцца 14 студзеня, бо ўжо з 17 чысла пачынаецца перадсезонны збор яго каманды. Асаблівых навін з клуба пакуль няма. Усе футбалісты пацiху падтрымліваюць форму. Мясцовыя гуляюць на дамашнім турніры, мінчане і жодзінцы знайшлі сабе дзе пагуляць у сталіцы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

# РОЗНАЕ

## ПРАДАМ

### БУДМАТЭРЫЯЛЫ

- Чарапіцу цэментна-пясчаную, колер чорны. Т. у Маладзечне 65542.
- Брус, елка, 29 бярвёнаў. Т. у Маладзечне 70416, Ірына; т. у Мінску 5066476.
- Батарэі чыгунныя. Т. у Вілейцы 69214.
- Пліты перакрыцця ПК6-1,5, цэглу. Т. у Маладзечне 67306.

### ТВ, БЫТАВАЯ ТЭХНІКА

- Пыласос Электрасіла, б/у, 25 у. а. Т. у Маладзечне 60088.
- Пральную машыну-аўтамат, халадзільнік, пыласос, электрапліту, к/тэлевізар 70 см, 51 см, усё б/у. Т. у Маладзечне 95715, 36222.
- Халадзільнік аднакамерны. Т. у Вілейцы 58436.
- ТВ, б/у, 72 см, вытв. Германіі, 1998 г. в., 240 у. а., выдатны стан; печ Bosh, мікрахвалевая, б/у, няспраўная. Т. у Маладзечне 71929.
- Халадзільнік 161. Т. у Маладзечне 73922.
- Відэамагнітафон, 70 у. а.; музычны цэнтр, 75 у. а.; камплект зімовай гумы R13, 80 у. а.; усё б/у. Бытавая тэхніка з Германіі пад заказ. Т. у Маладзечне 37630.
- Халадзільнік, маразільнік, пліту газавую. Дастаўка. Т. у Маладзечне 39121.

### МУЗІНСТРУМЕНТЫ

- Майстравую гітару, рухавік да аўтамабіля ВАЗ, 1500 $см^3$, новы. Т. у Маладзечне 70259.

### МЭБЛЮ

- 3-дзверную шафу з антрэсолямі, б/у, светлая. Т. у Маладзечне 62148.

### ЖЫВЁЛУ

- Цяля (бычок), 1 мес. Т. у Вілейцы 63346.
- Шчанят даўгашэрснай нямецкай аўчаркі без радаслоўнай. Т. у Маладзечне 32639 (пасля $18^{00}$).
- Стафардшырскі тэр'ер. Вельмі танна. Масць любая. Магчымы абмен. Характар ураўнаважаны. Т. у Маладзечне 63713.

### ІНШАЕ

- Натуральная скура — вялікі выбар. Т. у Маладзечне 32812 з $19^{00}$ да $22^{00}$.
- Новую імпартную дзіцячую ўніверсальную каляску. Т. у Маладзечне 75830.
- ВКФ "Зеніт-Гарант" рэалізуе воданагравальнікі ёмістасцю 80, 50 літраў; выконвае рамонт фотаапаратуры, аптычных вырабаў і інш. нескладанай бытавой тэхнікі. Т. у Маладзечне 54747, вул. Чапаева, 60. Падлягае абавязковай сертыфікацыі. Ліц. №04410 Белбытсаюза РБ ад 1.10.1999 г. да 1.10.2004 г.
- Фірму з ліц. на рознічны гандаль, зарэгістр. у Мінску. Т. у Смаргоні 36319.
- Зварачны паўаўтамат, новы. Т. у Маладзечне 60082.
- Гранітны помнік. Т. у Маладзечне 75935.
- **Бланкі бухуліку, вялікі выбар. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8. Т. у Смаргоні 33077.**

## КУПЛЮ

- **4-ы ТОМ БЕЛАРУСКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ (1997 г. выдання). Т. у Маладзечне 53841, 69667.**
- Ацынкаваную бляху і любыя будматэрыялы. Т. у Маладзечне 68693 (удзень).

## ІНШАЕ

- Работа на даму. Маладзечна, галоўпаштамт, д/з МС 03969421.
- Дапамагу ў вывучэнні нямецкай мовы. Выканаю к. р. па нямецкай мове, напішу рэферат ці курсавую па гісторыі, філасофіі, педагогіцы. Т. у Маладзечне 32075.

## ШУКАЮ РАБОТУ

- Шукаю работу па насціле падлогі, вокны, дзверы, вагонка, пластык. Т. у Маладзечне 52506.

# ЗНАЁМСТВЫ

***Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Жадаем знайсці сваё шчасце!***

Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з жанчынай або дзяўчынай да 30 год. Пра сябе: разведзены, 29/178/80, без шк/зв. Маладзечна-6, д/з МС 0417485.

# ВІНШАВАНКІ ВІНШАВАНКІ ВІНШАВАНКІ

***Дарагія чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Віншаванкі звыш пятнаццаці слоў платныя. Мы можам размясціць партрэт таго, каго вы віншуеце, калі вы гэтага пажадаеце. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!***

Івану Іванавічу Малінцу, галоўнаму інжынеру Маладзечанскіх электрычных сетак.

**Шаноўны Іван Іванавіч!** Сардэчна віншуем Вас з адметнай датай у жыцці — **50**-гадовым юбілеем!

*На Новы год табе пашчасціла з'явіцца*
*Над Прыпяццю — палескаю ракой.*
*Хай чарка за здароўе будзе піцца,*
*Што за цябе ўздымаем цвёрдаю рукой.*
*Хай кіламетры сетак — толькі пад напругай,*
*І ў лесе — каб заўсёды штосьці ўпаляваў.*
*І хай з Галінай, лепшаю падругай,*
*Ты ўнукаў прычакаў і ўзгадаваў.*
*А шчасце разам са здароўем*
*Хай будуць у спадарожніках заўжды.*
*Не знай ніколі ты бяды.*

Твае сябры, з павагай і любоўю:

***Намеснікі і галоўныя інжынеры Вілейскага, Валожынскага, Мядзельскага і Маладзечанскіх гарадскога і сельскага РЭСаў Рогач, Жаўняровіч, Жыдаловіч, Косік, Шапэчка, Жукоўскі, Барыла, Рынкевіч, Лужынскі, Вятроў.***

Віншую **Тамару і Таццяну Барадзіных** з Ражством Хрыстовым! Няхай здзейсняцца ўсе вашы мары. ***Вольга.***

**Валянціне Пятроўне Абрамчык!** З днём нараджэння! Здароўя, радасці, поспехаў. ***Калегі.***

Віншуем дарагую матулю **В. А. Тамковіч** з Калядамі! Жадаем моцнага здароўя, многа шчасця, усмешак і радасці! ***Дочкі Ганна і Ірына.***

Паважаная **Марыя Міхайлаўна Сулімоўская!** Віншуем Вас з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, бадзёрасці. ***Ад сям'і.***

Віншую з Ражством дарагога татачку **Аляксандра Галунова!** Жадаю табе сем футаў пад кілем і менш акул на шляху. ***Малодшая дачка.***

**З Новым годам!** Жадаем сабе ўдачы, удачы і яшчэ раз ўдачы! ***Дзяўчаты з водарам кавы.***

З юбілеем **Марыну Іванаўну Качан!** Віншуем з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя і ніколі не старэць. ***Муж і дзеці.***

Віншуем **Антаніну Іванаўну Каласкову** з юбілеем! Желаем благ земных. Мы знаем — Вы достойны их. ***Дзеці і ўнукі.***

Матулю і бабулю **Алену Афанасьеўну Мандрык** віншуем са святам — Ражством Хрыстовым. Жадаем усяго найлепшага. ***Сям'я Карпекаў.***

**Галіну Гапанёнак** з Будслава з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, даўгалецця табе, любая. Не губляй надзею — мы з табою. ***Сябры.***

**1 КУПОН для бясплатнай аб'явы**

Бясплатна змяшчаюцца аб'явы **толькі ў рубрыкі "Знаёмствы" і віншаванкі** аб'ёмам да 15 слоў. **Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

тэкст аб'явы

Рэгіянальная газета

## Студзень – году пачатак, зіме – сярэдзіна

Сама назва гэтага месяца сведчыць пра яго характар: студзень – значыць, сцюдзёны. Нярэдка па народных прыметах год падзялялі на дзве роўныя часткі: адна пачыналася з 1 студзеня, другая – з 1 ліпеня.

Па студзені меркавалі пра будучую вясну ("Як студзень цёплы на лік, дык завідны сакавік") і лета ("Студзень мяце – ліпень залье"), вызначалі і набытак які чакаецца ў агародзе і на полі: "Студзень пагодны – год будзе плодны", "Калі ў студзень дажджы – дабра не жджы".

*6 студзеня* – пярэдадзень Каляд.
*7 студзеня* – Ражство Хрыстова.
*13 студзеня* – другая (багатая) куцця напярэдадні старога Новага года.
*14 студзеня* – стары Новы год, Васілле.
*18 студзеня* – трэцяя (галодная, посная) куцця.
*19 студзеня* – Вадохрышча.
*20 студзеня* – памяць Іаана Хрысціцеля.
*21 студзеня* – "Па абед – Каляда".
*25 студзеня* – Таццянін дзень.
*31 студзеня* – Апанас–ламанос.



## ПАТРАБУЮЦЦА



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАМ

- ВАЗ-2101, 1977 г. в., капрамонт у 1997 г. Т. у Маладзечне 95044 (Радашковічы).
- А/м Форд-Сіера, 1984 г. в., бензін; секцыю МД-233. Т. у Вілейцы 58855.
- **МЕРСЕДЭС-280, БЕНЗІН, 1980 Г. В., УСЕ НАВАРОТЫ. Т. у Маладзечне 53969, 50747.**
- А/м Масквіч-2140, газ-бензін. Т. у Маладзечне 33585.

Прадам Опель-Кадэт-караван, 1.3, 1982 г. в., на запчасткі, дакументы. Т. у Маладзечне 42717 (пасля $18^{00}$).

- Фольксваген Гольф II, 1987 г. в., 1.8 карб. бензін, 1700 у. а., торг. Т. у Маладзечне 65146.
- Аўдзі-100 на запчасткі. Т. у Астраўцы 24363, Мікалай.
- МТЗ-82 УК, 1994 г. в. Т. у Мінску 2580004.
- Два новыя дыскі да а/м Таўрыя. Т. у Вілейцы 54987.
- А/м Масквіч-2140, газ-бензін. Т. у Маладзечне 53585.
- Форд-Скорпіё, 2.5, дызель, 1992-93 г. в., хэчбэк, белы, 4500 у. а. Т. у Вілейцы 57118.
- ФВ-Гольф, 1988 г. в., 1.6, бензін, 3 дзвярэй. Т. у Вілейцы 56762.
- А/м W-Джэта, 1,6 л, 5КПП, 1984-95 г. в. Т. у Маладзечне 65542.
- БМВ-318, БМВ-320 на з/ч, нядорага. Т. у Маладзечне 53379.
- З/ч да Пежо. Т. у Смаргоні 31870.
- А/м Ф-Гольф-II, 1.8i, 1987 г. в. Т. у Маладзечне 51594.
- ВАЗ-2108, 1987 г. в. Т. у Вілейцы 58510.
- Масквіч-412 і міні-электрастанцыю. Т. у Маладзечне 20173.
- А/м Мазда-323Е, 1991 г. в., 3100 у. а., торг. Т. у Маладзечне 37920 (пасля $18^{00}$).
- ВАЗ-21099, 1992 г. в. Т. у Маладзечне 30686.
- А/м Нісан-Сані-універсал, 2.0Д, 1992 г. в., гідраўзмацняльнік, карэктар фараў, 3600 у. а. Т. у Вілейцы 56388.
- А/м VW-Пасат, 1.9ТД, 1989 г. в., універсал, 3700 у. а. Т. у Маладзечне 69127.
- Опель-Кадэт, 1.6, дызель, 1983 г. в., аварыйны на з/ч, дакументы. Т. у Маладзечне 63678.
- VW-Пасат-універсал, 1986 г. в., 1.8Б, 5КПП. Т. у Маладзечне 39614.
- Avia-21F, 1988 г. в., або памяняю на легкавы аўтамабіль. Т. у Маладзечне 67306, 77370.
- Міцубісі-Галант, 1989-90 г. в., 1.8, дызель. Т. у Маладзечне 39615 (пасля $19^{00}$).
- М-2137, 1982 г. в., 30000 км, 300 у. а. Т. у Маладзечне 69819.
- ВАЗ-21061, 1994 г. в., аб'ём 1.5, сігн., чахлы, магнітола, колер вішня, 1650 у. а. Т. у Маладзечне 79187, 37534.
- З/ч да VW-Гольф-2, -Пасат, 1986 г. в. Т. у Маладзечне 60037.
- А/м Таўрыя, 1990 г. в., 68 т. км, 4.6/100, выдатны стан. Т. у Смаргоні 32243.
- VWLT-28, 2.4Д, пасажырскі. Т. у Смаргоні 52177.
- А/м ВАЗ-21093, 1991 г. в., 1500 см³, або мяняю на дызельны а/м. Т. у Маладзечне 66790.
- Кабіну да а/м КамАЗ, паўпрычэп бартавы АДАЗ-9357, рэфрыжэратар, збожжамалацілку або мяняю на дызпаліва. Т. у Маладзечне 39407, 35595.
- М-412 і УАЗ-469, без дакументаў, на хаду, нядорага. Т. у Вілейцы 45204.
- Газавую ўстаноўку на аўтамабіль, б/у. Т. у Маладзечне 51098.
- А/м Масквіч-412, 1988 г. в., 300 у. а. Т. у Маладзечне 52325.
- ГАЗ-24, 1973 г. в., газ-бензін. Т. у Маладзечне 76800.

### КУПЛЮ

- МТЗ-82 УК. Т. у Мінску 2580004.
- Дакументы да ВАЗ-2105. Т. у Вілейцы 52333.
- Кузаў Мерседэс-123. Т. у Маладзечне 52355.
- Іншамарку на запчасткі. Т. у Маладзечне 20173.
- А/м біты або на з/ч з дакументамі Audi-80, 100; VW-Golf-2; Jetta-2. Т. у Маладзечне 52279.
- Трактар Т-25, які патрабуе рамонту, да 400 у. а. Т. у Маладзечне 60037.
- Аварыйны аўтамабіль Аўдзі-80, 1987-90 г. в. Т. у Маладзечне 34425.
- Новыя аўташыны да грузавой і сельскагаспадарчай тэхнікі. Т. у Маладзечне 70478.

### МЯНЯЮ

- Аўтамабіль Нісан-Прэм'ера, 1991 г. в., у выдатным стане на аднапакаёвую кватэру ў Маладзечне або прадам. Т. у Маладзечне 70437.
- **А/М VOLVO-244, 1978 г. в., НА ХАДУ, НА БУДМАТЭРЫЯЛЫ. Т. у Маладзечне 68992 (раб.), 64483, Лена (дам.).**

### ПАСЛУГІ

- Вазьму спадарожнікаў у Літву за а/м. Т. у Маладзечне 39315.
- Вазьму спадарожнікаў у Польшчу за а/м. Т. у Маладзечне 30583.

### ІНШАЕ

- Прадпрымальнік РФ, на прыватным мікра-аўтобусе, 6 п. м., разгледзіць любыя прапановы па супрацоўніцтве. Т. у Маладзечне 39315.

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАМ

- **ГАРАЖ у ГК № 24 (29 м²). Т. у Маладзечне 37781.**
- 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, гараж у ГК №2. Т. у Вілейцы 58807.
- 2-пакаёвую кватэру, у цэнтры, цагляны дом, пабудаваны ў 1994 г., 3-і паверх, тэлефон. Т. у Маладзечне 69820 (пасля $19^{00}$).
- Капітальны гараж у ГК №17 (Здземелева), Маладзечна. Т. у Смаргоні 36754.
- Гараж у ГК №4. Т. у Маладзечне 30068.
- 3-пакаёвую кватэру, нядорага. Т. у Маладзечне 75468.
- 3-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, чэшская планіроўка, або мяняю на Мінск. Т. у Маладзечне 70416, т. у Мінску 5066476, Ірына.
- Цагляны дом, в. Калодчына Вілейскага р-на, па трасе Мінск-Мядзел, 95 м², пабудовы, сад, тэлефон, паблізу лес, вадасховішча, тэрмінова, нядорага. Паслугі пасрэдніка аплацім. Т. у Вілейцы 66133.
- 3-пакаёвую кватэру ў Смаргоні, Усходні мкр. Т. у Смаргоні 21562 (пасля $18^{00}$), 31333 (у рабочы час).
- Новыя 3-пакаёвую і аднапакаёвую кватэры. Т. у Вілейцы 57249.
- 3-пакаёвую кватэру па В. Гасцінцы, цагл. дом, не хрушчоўка, 9000 у. а. Т. у Маладзечне 62996.
- 2-пакаёвую кватэру, у цэнтры. Т. у Маладзечне 39502.
- Танна дачу і нулявы цыкл пад катэдж. Т. у Маладзечне 64433 (дам.), 53505 (раб.).

### КУПЛЮ

- 3-пакаёвую кватэру бліжэй да цэнтра, у нестарым доме. Т. у Маладзечне 69684 (з $17^{00}$ да $19^{00}$).

### МЯНЯЮ

- 1-пакаёвую кватэру з частковымі выгодамі на кв-ру з выгодамі. Т. у Маладзечне 62996.

### НАЙМУ

- Аднапакаёвую кватэру. Т. у Вілейцы 46435.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- **МІЛЫЯ НЯВЕСТЫ!** Новая калекцыя вясельных і вячэрніх убораў чакае вас. Дзейнічаюць навагоднія скідкі. Т. у Маладзечне 64110, 26308.
- **ВЯСЕЛЬНЫЯ ЎБОРЫ**: модныя, элегантныя, новыя паступленні, вэлюм у падарунак. Т. у Маладзечне 39293.
- **ВЯСЕЛЬНЫЯ СУКЕНКІ**: вялікі выбар, нядорага. Т. у Маладзечне 68547.
- **ВЯСЕЛЬНЫЯ І ВЯЧЭРНІЯ ЎБОРЫ. ВЯЛІКІ ВЫБАР. Т. у Маладзечне 50825.**

### ІНШАЕ

- Шліфоўка падлогі. Т. у Маладзечне 68693.
- Абіваю дзверы дэрмацінам. Т. у Маладзечне 76412.
- Дапамагу з рамонтам кватэры. Т. у Маладзечне 69394.

Калектыў Маладзечанскай транспартнай канторы Мінскага аблспажыўсаюза выказвае глыбокае спачуванне **Віктару Фёдаравічу Гаўрыленку** ў сувязі са смерцю яго *бацькі*.

## ГАРАСКОП 10 – 16 СТУДЗЕНЯ

***Авен (21.03–20.04)***
У новым годзе бярыце «руль кіравання» у свае рукі. Вашыя энергія і актыўнасць будуць якраз дарэчы.

***Цялец (21.04–21.05)***
Ваша фартуна можа дасягнуць новых вышынь. А ў гэтыя дні не шкодзіць прывесці ўсё ў сістэму і вызначыць новыя мэты.

***Блізняты (22.05–21.06)***
Аддайце больш увагі сваёй «палавінцы». Калі вам падораць пярсцёнак з самацветам або проста самацвет, вас чакае ўдача.

***Рак (22.06–23.07)***
У гэтыя дні вашыя кулінарныя здольнасці ацэняць. Толькі не перастарайцеся, бо галоўнае ўсё ж не стравы, з якімі «можна язык праглынуць», а цёплыя ўсмешкі і радасныя твары людзей, якіх любіш.

***Леў (24.07–23.08)***
Вы арганізавалі незабывальную сустрэчу Новага года, падабралі чароўныя падарункі дзецям. Гэты тыдзень адпачывайце ад клопатаў і гасцей, набірайцеся моцы і здароўя.

***Дзева (24.08–23.09)***
Калі 15 студзеня выпадкова некалькі разоў пачуеце адно і тое ж імя, то вы хутка сустрэнеце чалавека з такім імем.

***Шалі (24.09–23.10)***
Пастарайцеся не хваляваца з-за пустога. Шчасце будзе ў доме, калі ягоная гаспадыня прыгожая, ласкавая і вясёлая.

***Скарпіён (24.10–22.11)***
Гэты год не лепшы для поспехаў на лесвіцы кар'еры. А вось для выхавання ў сабе смеласці і вытрымкі - гэта самы ўдалы час. Таму рашыце ўсе канфлікты ў самым пачатку года.

***Стралец (23.11–21.12)***
Едзьце ў госці і прыемна баўце час, але не забывайцеся сачыць за сабой. Работа таксама прынясе вам задавальненне.

***Казярог (22.12–20.01)***
У вас ёсць шанц папраўіць сваё матэрыяльнае становішча. Памятайце, што маўчанне - «золата».

***Вадалей (21.01–19.02)***
Самы час прывесці ў парадак свае стасункі з блізкімі і супрацоўнікамі. Не трэба ў новым годзе працягваць спрэчкі, што пачаліся ў мінулым годзе.

***Рыбы (20.02–20.03)***
Магчыма, менавіта ў гэтым годзе вашыя самыя таемныя жаданні збудуцца. Але выбірайце самае цудоўнае, бо спаўненне жаданняў бывае так рэдка!

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)


**РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА**
Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ».
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**



**ТЭЛЕФОНЫ / ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**



Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. **Тыраж 7100 экз.** Падпісная цана на адзін месяц **200 тыс. руб.** (індывідуальная падпіска, **індэкс 63212**), **500 тыс. руб.** (ведамасная падпіска, **індэкс 63369**). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
**№1(245) 07.01.2000.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая,11. Зак. №. Падпісана ў друк у 13.00 06.01.2000




**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
Маладзечна: Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
Вілейка: гасцініца "Вілія", капіравальны цэнтр "Парус" **Тэл. 55194, 55284.**
Смаргонь: 1) Рэдакцыя "Новой газеты Сморгони", вул. Танкістаў, 8. **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у аддзяленні Белзнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя "РГ"

СПАДЧЫНА

# Мемуарная літаратура і краязнаўства

***Дзякуючы спагадлівай ласцы сям'і Каханоўскіх, мы пачынаем публікацыю яшчэ нідзе не друкаванай працы славутага краязнаўца.***

З пэўнай агаворкай, да мемуарнай літаратуры можна аднесці ўжо названыя "Хроніку Польскую, Жмудскую і ўсей Русі" М. Стрыйкоўскага, а таксама "Апісанне ўсей краіны, падпарадкаванай цару Масковіі" А. Гваньіні, паколькі ў іх прысутнічае элемент уласнага ўспрыняцця старажытнай культуры краю без адсылак да канкрэтных фактаў. Часта гутарка ідзе аб рэальных падзеях ад імя гэтых аўтараў, удзельнікамі або відавочцамі якіх яны былі. Іх працы блізкія да гістарычнай літаратуры. Разумеецца, тут ёсць і другая частка працы, дзе падзеі адбываліся па-за полем іх зроку. У М. Стрыйкоўскага, на наш погляд, якраз найбольш прысутнічае ўласны погляд на гісторыю Вялікага княства Літоўскага. І як ужо вышэй гаварылася, Мацей Стрыйкоўскі і Аляксандр Гваньіні, будучы самі ўраджэнцамі Беларусі, зрабілі свае назіранні над бытам краю, яе гаспадаркай, прыродай, цікавымі мясцінамі, помнікамі.

Дагэтуль умоўна краязнаўчымі можна назваць нават такія творы "Жыціе Аўрамія Смаленскага" (1240 г.) і "Слова аб Мяркурыі Смаленскім". У "Жыціі" ідзе гутарка пра культуру Смаленска, дзе былі школы, інтэнсіўна перапісваліся кнігі. У другім літаратурным творы гутарка ідзе пра паход Батыя на Смаленск. Асновай гэтага "Слова" з'явілася легенда.

Працягам смаленскай летапіснай літаратуры стаў Беларускі летапіс, дзе раскрываецца не толькі гісторыя Вялікага княства Літоўскага, але і асобных мясцін. Падзеі, што тут апісваюцца, адносяцца да XV ст., найперш, тут увага звернута на Смаленск як адзін са старажытных цэнтраў духоўнай культуры. Ёсць тут звесткі пра Крэва, Трокі, Вільню, Мсціслаў, Оршу, Віцебск ды іншыя. У цэнтры Смаленскай хронікі "Пахвала Вітаўту" - узоры панегірычнага жанру ў беларускай літаратуры.

Класічны тэзіс Францыска Скарыны (каля 1490 - каля I55I) аб адданасці роднаму краю, наогул, заўсёды служыць як крэда для кожнага беларускага патрыёта, у тым ліку і краязнаўцы. "Понеже от прирождения звери, ходящие въ пустыни, знают ямы своя; рыбы, плавающие по морю и в рекахь, чують виры своя; пчёлы и тым подобная боронять ульевъ своихъ. Так жъ и люди игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають". У асноўным жа, Ф. Скарына бачыў сваю галоўную задачу ў тым, каб прынесіць як мага больш "посполитым людем", пашыраць сярод іх асвету. Ён быў дзеячам вялікай культурнай справы.

Гуманістычныя ідэі Скарыны працягвалі С. Будны, В. Цяпінскі, Я. Намыслоўскі, якія раілі звяртацца да гісторыі свайго народа, не забываць адметнасць яго сярод суседзяў. В. Цяпінскі з асаблівай перакананасцю абгрунтоўваў неабходнасць асветы на роднай мове, абуджэння ў народзе нацыянальных пачуццяў.

На наш погляд, гэты перыяд Адраджэння павінен быў бы стаць пераломны ў станаўленні беларускай нацыянальнай свядомасці, паколькі ўмовы складаліся якраз на карысць стварэння вялікай нацыянальнай культуры. На вялікі жаль, палітычная і эканамічная сітуацыі пачалі ўскладняцца, і замест далейшага прагрэсу, які складваўся ў перыяд Рэфармацыі, наступіў цяжкі этап у гісторыі Беларусі – перыяд Контррэфармацыі. Аднак жа адкат прагрэсіўнага развіцця беларускай адраджэнцкай ідэі ў практыцы жыцця не стаў "мёртвай зонай" у духоўным і матэрыяльным жыцці цэлага народа.

Звернемся да помнікаў старабеларускай літаратуры, у якіх можна сустрэць шмат звестак гістарычнага, этнаграфічнага, фалькларыстычнага характару, якія пацвярджаюць нашу думку пра шырокія магчымасці іх выкарыстання краязнаўцамі. Заўважым пры гэтым, што сучасныя даследчыкі родных мясцін і напалову не выкарыстоўваюць той сярэдневяковы фонд ведаў. Яны сягалі ўглыб стагоддзяў толькі ў сувязі з першым упамінаннем таго ці іншага населенага пункта, мажліва, з пэўнымі гістарычнымі падзеямі ды выкарыстаннем з даўняй спадчыны адной-дзвюх легендаў. Толькі сучасныя перамены ў грамадскім мысленні ў адносінах да гістарычнага мінулага дапамогуць уводзіць у краязнаўчы ўжытак старадаўнія пласты нацыянальнай культуры. Таму прароцкія словы Ф. Скарыны аб звароце да спадчыны сёння вельмі актуальныя: "...людям простым пасполитым к пожытку и ко размножению добрых обычаем". І пры тым рабіць гэтае трэба на роднай мове: "Не многим учителем бывати, но более умети язык свой справовати".

Краязнаўчы аспект у творах XVI - першай паловы XVII стст. прысутнічаў дастаткова часта. Кола такіх крыніц можа быць вельмі шырокае і, часам, нечаканае. Напрыклад, спадчыну Андрэя Міхайлавіча Курбскага (1528-1583) нельга адносіць да твораў беларускай літаратуры. І ўсё ж пэўныя элементы мясцовага паходжання ў яго манускрыптах ёсць. Ён у 1564 г. уцёк у Беларусь і тут працягваў сваю літаратурную дзейнасць. Напісаў знакамітыя тры пасланні Івану IV (1564-I579), тры Васьяну Мурамцаву (1563-I564), чатырнаццаць - вялікалітоўскім адрасатам і многае іншае, дзе прасочваюцца і яго ўражанні ад жыцця на зямлі Вялікага княства Літоўскага. І гэта нягледзячы на адмоўнае стаўленне А. Курбскага да працы Ф. Скарыны, наогул, да ўсёй рэнесансава-гуманістычнай традыцыі, да выкарыстання народнай мовы ў кнігах царкоўнага кірунку.

Цікавасць жа да пазнання сваёй даўняй гісторыі праяўлялася ў саміх вяльмож. Як пісаў А. Рымша ў "Дзесяцігадовай аповесці ваенных гадоў Крыштафа Радзівіла" (Вільня, 1585), магнаты запрашалі ў свае двары адукаваных людзей, літаратараў, хто мог бы пісаць мясцовую гісторыю. Дарэчы, А. Рымша, паказваючы мужнасць воінаў Вялікага княства Літоўскага, быў занепакоены, што ад іх рук гінуць помнікі культуры.

У шэраг твораў краязнаўчага характару можна ўключыць "Дзённік" Фёдара Еўлашэўскага (1546-1604). Відавочна, гэты грамадскі дзеяч вёў свае мемуарныя запісы з 1564 г. і закончыў у год смерці. А быў апублікаваны толькі ў 1886 г. стараннямі кіеўскага прафесара В. Антановіча. Маючы вялікія магчымасці бываць у розных месцах Беларусі, бачыць сваімі вачыма шматлікія падзеі, ён даў малюнкі быту шляхты, жыцця некаторых гарадскіх цэнтраў Вялікага княства Літоўскага. "Дзённік" багаты на самыя розныя жыццёвыя факты і імёны некаторых палітычных дзеячаў дзяржавы, феадальнай знаці. "Дзённік" – гэта помнік свецкай літаратуры і гэта той стрыжань, які арыентаваў аўтара на забеспячэнне збору і фіксацыі адпаведнай інфармацыі, якая, несумненна, мае і краязнаўчае значэнне.

Трывалы краязнаўчы пласт ведаў заключае ў сабе праца Яна Ласіцкага (1534-1605) "Пра рэлігію, ахвярапрынашэнні, вясельныя, пахавальныя абрады русінаў, маскавітаў, татар..." (1582 г.). На першы погляд, гэтую кнігу пазнанскага шляхціча можна кваліфікаваць як царкоўна-палемічную. Тыя даследчыкі, хто так сцвярджае, маюць рацыю, але толькі да пэўнай мяжы. У асноўным жа, гэта праца краязнаўчая, а асабліва ў дачыненні да беларускага народа.

Ураджэнец Польшчы Ян Ласіцкі ў маладым веку пакінуў сваю радзіму і перабраўся на Беларусь. Трыццаць гадоў правёў пры двары вядомага роду Глябовічаў. Пад уплывам мясцовых рэлігійных паveваў ён выракся каталіцызму. Жыў у Заслаўі, Радашкавічах, Дубровах. Цяжка сёння сказаць, чым Я. Ласіцкі быў заняты ў двары Глябовічаў. Аднак ён, як і яго патрон, зацікавіўся Рэфармацыяй, тым рухам грамадскім, што імкнуўся да асветы і да культуры і ажыўляў Беларусь. Так Ласіцкі падступаў да важнейшай праблемы: вывучэння быту, звычаяў, народнай творчасці, вераванняў, прымхаў і г. д. Яму кінулася ў вочы тая летапісная розніца, якая аддаляла Польшчу ад беларускага краю.

Станоўчай рысай апісання Яна Ласіцкага трэба лічыць яго аб'ектыўны падыход у ацэнцы культуры беларускага народа. Ён указаў на прысутнасць у ёй архаікі, што сведчыць пры перажыткі язычніцтва. Назіральны аўтар лічыў, што ад радзімічаў захаваўся абрад пахавання. Натуральна, ён тады яшчэ не мог ведаць пры перажыткі крывіцкіх і дрыгавіцкіх плямёнаў, таму і пісаў так спрошчана. Але сама пастаноўка пытання вартая самай пільнай увагі.

Краязнавец вывучаў вясельны абрад і прыйшоў да вываду, што сам элемент выкрадання маладой – "умыкаху у воды девица" таксама ідзе ад радзімічаў. Ён вельмі арыгінальна растлумачыў "мядовы месяц", калі святар пры шлюбе частуе маладых кубкам мёду, а тады яны на працягу месяца п'юць з гэтага кубка мёда. Зноў жа, лічыў гэта толькі мясцовай з'явай. Ласіцкі пісаў пра міфы на Беларусі, заўважыўшы пры гэтым іх вялікую папулярнасць.

Ласіцкі захапляўся мясцовымі помнікамі архітэктуры, іх арыгінальнай будовай. Будучы ў Полацку, ён апісаў старажытнасці гэтага горада, яго манастыры, іншыя храмы. Вельмі шкадаваў, што многае з даўняга дойлідства, як тое, што ў іх захоўвалася, зруйнаваў маскоўскі цар Іван IV. З асаблівым шкадаваннем згадваў аўтар пра зніклую бібліятэку, анамісты ды іншую каштоўнасць.

Акрамя Беларусі, Яна Ласіцкага цікавіла Заходняя Украіна, а таксама і Русь. Беларусь ён называў "Аева", а саміх беларусаў – русінамі, рутэнамі, знаходзіў розніцу сярод іншых славянскіх народаў. У сваёй творчай практыцы Ласіцкі падтрымліваў сувязі з некаторымі дзеячамі навукі і культуры. У прыватнасці, з рэктарам універсітэта ў Крулеўцы Г. Сабікумам, аўтарам элегій пра язычнікаў Усходняй Еўропы.

**Працяг будзе.**

***Генадзь КАХАНОЎСКІ.***

ПАЭЗІЯ

## На смерць Г. Каханоўскага

Зямля мая! Народ мае зямлі!
Зноў нас дастала
лютай смерці міна,
Зноў мы пазбегнуць
страты не змаглі,
Край траціць сына,
ды якога сына!

Такая страта! Як жа
іх сцярпець –
З Гародні той* –
цяпер ты з Маладзечна.
Якая ж ты пачвара
ўсё-ткі, смерць,
Што нас рабуеш
гэтак бессардэчна.

Ён праз жыццё
нялёгкі крыж пранёс,
Рабіў адну, але святую справу,
Ён клапаціўся
пра Айчыны лёс,
Вяртаў зямлі яе былую славу.

І вось яго мы аддаем зямлі,
Хай будзе для
яго зямелька пухам,
Мы пакланіцца
ўсе яму прыйшлі,
Каб ад яго нам
узмацніцца духам.

Каб мы таксама
штосьці зрабіць маглі,
Каб мець да яго спраў
хоць прыналежнасць,
Каб множыць славу
роднае зямлі,
Мацуйма ж яе лёс
і незалежнасць.

* Доктар гістарычных навук праф. М. А. Ткачоў

***Вячаслаў ШНУРКЕВІЧ.***

ПРОЗА

## Печ

***Прысвячаецца Генадзю Каханоўскаму.***

Тугі вецер гоніць над вёскай хмары. Яны адвіслымі чэравамі ледзь не чапляюцца за коміны. Зябка ў хаце. Ранкам выпалілі ў печы, і калі ў ёй вычадзіліся і апалі на спод галавешкі, аброслыя шызым попелам, а пад імі зазырчэў жар, палез пагрэцца на чарэнь.

Ляжу на латунку, падасланым пад плечы, і салодкая цеплыня разліваецца па целе. Бярэ дрымота, заплюшчваюцца вочы, і я амаль у паўсне прыгадваю сваё дзяцінства, думаю пра родную печ у матчынай хаце, на якой разам з братамі і сёстрамі грэўся ў непагодныя дні восені і сцюдзёныя ўзімку. Яна была для нас нібы гняздом для маленькіх птушанят, цёплым і ўтульным. Бывала, намерзнешся на вуліцы або трапіш пад халодны дождж – бягом у хату, хутчэй на печ, каб абагрэцца або абсушыцца. І яна прытуліць да сябе як родная маці. А як прыемна было, скінуўшы пасля коўзанкі на лёдзе абутак, грэць на чарэні азяблыя ногі, што аж зайшліся ад марозу. Скурчышся на печы, паставіш на чарэнь голыя пяткі і зажмурышся ад асалоды.

А хваробы? Дзе іх выганялі з цела, як не на печы? Абкрыешся, абкладзешся вопраткамі, пасцілкамі ці кажухом, добра выпацееш за ноч на чарэні і раніцай злазіш з печы здаровы і свежы, нібы новенькі. Вось чаму любяць ляжаць на печы пажылыя людзі, якіх ужо не грэе старая кроў. Там яны выганяюць хваробы і грэюць свае старыя косці.

Няма больш нічога даражэйшага і паважанага ў вясковай хаце, чым печ. Яна і корміць, і поіць, грэе і гоіць сям'ю. І не толькі яе. Не забудзем сказаць, што без печы аніяк не можа абысціся і скаціна. У печы, у вялікіх пузатых чыгунах, вараць бульбу на вобмешку для свіней, запарваюць кіпнем з печы сечку для каровы. А зімою, калі яна ацеліцца, цялятка таксама знаходзіць прытулак каля печы, каб, не дай Бог, не замерзла ў халодным хляве. У вялікія маразы і курэй бяруць з двара і заганяюць на ноч ў падпечак. Яны таксама баяцца марозу-траскуну, абмарожваюць грэбні.

У печы і на печы ўлетку сушылі грыбы і ягады, зёлкі, а ўвосень – насенне. На ёй сушылі мокрую вопратку, вымытую бялізну, абутак. Світкі, ватоўкі, валёнкі, боты, штаны сушацца на чарэні. А шкарпэткі, анучы, высцілкі – у пячурках, якія аднaчасова служаць і прыступкамі, калі лезеш на печ.

І, нарэшце, пра самае галоўнае – пра прыгатаванне ежы. Гэта самае значнае і адказнае прызначэнне печы. У ёй вараць, смажаць, парацъ, пякуць усе стравы, што потым падаюцца на стол. І можна смела сказаць, што печ – самая сапраўдная карміцелька сям'і. Яна галоўная асоба ў кожнай хаце. І займае ў ёй самае пачэснае месца: у куце, каля парога. Яна першая сустракае гаспадароў з двара ці гасцей з вуліцы. Гарадскога госця, якога пачастуюць звараным у печы мясным баршчом або разапрэлым у чыгунку ці гаршчку пеўнем, у якога распарыліся, ажно расталі костачкі, не адцягнеш за вушы ад міскі ці талеркі, пададзеных гаспадыняй на стол. З вялікім апетытам праглыне страву. Нават вышкрабе лыжкаю посуд. Падымецца з-за стала, падзякуе гаспадыні за вельмі смачны абед, пахваліць яе за ўмелае і майстэрскае кухарства і не скажа ні аднаго добрага слова печы. А гэта ж яна прыгатавала, зварыла госцю такія смакотныя стравы. Такія ніяк не прыгатуеш на пліце ці ў духоўцы гарадской кватэры.

Дакранешся далонямі ці прытулішся азяблымі плячыма да печы – грэе, зазірніце ў печыва – варыць, жыве, трапечацца полымем. Жывая істота ў хаце. Нястомна і без перапынку працуе дзень і ноч. Доўгімі гадамі. І аніяк не просіць адпачынку.

– Дзякуй табе, печ! – скажу ёй замест госця.

***Мікола КАПЫЛОВІЧ.***

ШЛЯХАМІ МАЛЕНСТВА



Хата, у якой нарадзіўся слынны гісторык.



Агульны выгляд Насілаўскай школы.



Старая Лебедзеўская сярэдняя школа.

 





# І ПАДАЛА ЗЕРНЕ Ў РАЛЛЮ...

У яго кабінеце засталося ўсё па-ранейшым. Манатонна адмервае час гадзіннік, чакаюць свайго гаспадара кнігі, рабочы стол і крэсла. Акуратна раскладзеныя пісьмовыя прылады ўжо крыху стаміліся ў чаканні ягонага прыходу. З партрэта насупраць глядзяць вочы добрага беларуса, выдатнага вучонага і мудрага грамадзяніна. Здаецца, яшчэ хвілінка, і можна пачуць: "Здароў, браце, нешта даўно не заходзіў". Толькі, на жаль, не скажа і не спытае. Ужо хутка будзе шэсць гадоў, як пакінуў ён гэты свет, сваю сям'ю, свой утульны кабінет. Цяжка, вельмі балюча ў гэта паверыць, але факт застаецца фактам, больш ніколі (якое страшнае гэта слова) не ўдасца пачуць з яго вуснаў мудрую параду, змястоўную падказку і разумную прапанову. У яго вучыліся, звярталіся за дапамогай мастакі і пісьменнікі, гісторыкі і краязнаўцы, настаўнікі і музыканты. Яго любіла і вельмі шанавала патрыятычная моладзь. Ён быў для іх духоўны бацька, маральны сімвал, проста сумленны чалавек.

А з'явіўся на Божы свет Генадзь Аляксандравіч Кахаlistоўскі познім марозным вечарам 8 студзеня 1936 года на другі дзень праваслаўных Каляд. Была серада. Маці яшчэ паспела схадзіць да царквы, каб паспавядацца і ачысціцца душой. Стаў ён у сям'і першынцам.

Ягоны бацька Аляксандр Аляксеевіч, хоць і меў тры класы адукацыі, але добра пісаў і па-майстэрску граў на балалайцы і мандаліне. Быў майстравы чалавек, любіў зямлю, трымаўся яе і толькі раз пакінуў на працяглы тэрмін свае Дамашы. Калі быў дэмабілізаваны ў польскае войска. Але ўжо ў 1928 годзе вярнуўся на бацькаўшчыну і больш адсюль нікуды не выязджаў. А маці – Наталля Мікалаеўна Капуцкая – паходзіла з Маладзечна, дзе яе бацька вёў гаспадарку і адначасова працаваў паштовым служачым. Сям'я Капуцкіх была спеўная, галасістая, за што, мусіць, і атрымала мястэчковую мянушку Басоны (у яе бацькі і брата былі прыгожыя басы). Жылі хоць і не багата, але дружна і сумленна.

Першыя дзіцячыя, яшчэ не асэнсаваныя ўспаміны Генадзя Каханоўскага адносяцца да пачатку вайны. Добра запомнілася, як ціха, спакойна, без адзінага стрэлу немцы занялі Дамашы. "На нашым агародзе паставілы танкі, машыны, матацыклы. Грукат неверагодны. Потым сціхла. Фронт адсунуўся на ўсход", - пісаў ён у яшчэ неапублікаваных успамінах. У вайну давялося пабачыць рознае. І даволі паблажлівыя, нават ласкавыя адносіны немцаў-франтавікоў да сялянскіх дзяцей, і іх жа лютую жорсткасць – пасля таго, як партызаны пачалі ўзрываць вайсковыя эшалоны. Назаўсёды ўрэзаўся ў памяць маленькага Генадзя выпадак, як аднойчы раніцой немцы акружылі Дамашы і пачалі зганяць людзей у драўляны свіран. Крык. Лямант. Шум. Стрэлы. І мусіць усіх там чакала страшная і пакутлівая смерць, каб не сусед Каханоўскіх Кароль Шаломскі, які быў прэсвітэрам у мястэчку Лебедзева і, на шчасце, цудоўна ведаў нямецкую мову. Яму і ўдалося пераканаць нямецкага афіцэра, што партызан тут няма, а толькі мірнае насельніцтва. У 1943 годзе прыйшла пара ісці Генадзю Каханоўскаму ў школу, але школьны будынак у Насілаве быў заняты бежанцамі, а ў Баяры хадзіць было даволі далёка і небяспечна. Ды і здароўя бракавала. Не паспеў ажыць ад дыфтэрыту, як прычапілася шкарлятына. Вядома, ваенны час.

Летам 1944 года пачалося наступленне савецкіх войск. Немцы ўпарта абараняліся. Давялося кінуць хату і хавацца ў полі, лесе, вырытых зямлянках. Ён згадваў: "Маці аднэй рукой цягне карову, а другой – мяне. Жахі, жахі, жахі. Як і выжылі. Вярнуліся – толькі печ ды печка ад хаты засталіся". Але, на шчасце, застаўся непашкоджаны хлеў, дзе бацька выразаў акно, паклаў падлогу і куды ў хуткім часе перабралася сям'я. Тут і нарадзіліся ў будучым брат Лявон, а за ім сястра Зіна. У 1945 годзе Генадзь Каханоўскі становіцца вучнем Насілаўскай 7-гадовай школы. Школка тая была пабудавана яшчэ за польскім часам і выглядала тады не вельмі прывабна. Выбітыя шыбы, дзверы, якія безупынку жаласна скрыпелі, вечны пах дыму з печак і люты холад. Тым не менш, вучыліся ўсе старанна, "усім хацелася выйсці ў людзі". Пра тую школьную пару Каханоўскі ўспамінаў: "Вучыўся я з розным поспехам. Але была мара нешта скончыць. Бацькі не пярэчылі, наадварот – спрыялі". У 52-м ён перайшоў у Лебедзеўскую сярэднюю школу. З педагогаў, якія там працавалі, найбольш запомніўся Радзішэўскі Лявон Аляксандравіч, які любіў дзяцей і выдатна ведаў свае прадметы: фізіку і нямецкую мову. Іншыя памяталіся горш. Вучыўся і адначасова працаваў у калгасе. Капаў на балоце торф, вазіў на поле. Дапамагаў бацькам па гаспадарцы. У 1955 годзе пасля заканчэння сярэдняй школы зрабіў спробу паступіць у Рыжскае рачное вучылішча, але, мусіць, на шчасце, не прайшоў па конкурсе. "Адсеяўся, але Рыгу паглядзеў". І ў тым жа годзе быў прызваны на вайсковую службу. Служыў у войсках сувязі, спачатку на Гомельшчыне, а затым у пасёлку Стуніцы Маскоўскай вобласці. Тым не менш, ад мэты "выйсці ў людзі" стараўся не адмаўляцца. Пад канец службы, з дазволу камандзіра часці, ён едзе ў Маскву і паспяхова здае экзамены ў педагагічны інстытут на гістарычна-філалагічны факультэт. Пачынаўся новы этап у ягоным жыцці.

## Шляхамі маладосці.

Для яго, маладзенькага хлопца-правінцыяла з глухой заходнебеларускай вёскі, адчыніўся дагэтуль пасапраўднаму невядомы, загадкавы і таямнічы свет - свет навукі, ведаў і адкрыцця прыгожага. Затаіўшы дыханне, слухаў ён у студэнцкіх аўдыторыях лекцыі карыфеяў расійскай навукі, выкладчыкаў "міласці Божай" А. Лосева, І. Тронскага, М. Зерчанінава. Як губка, убіраў у сябе ўсё лепшае, сказанае імі з галіны мастацкай і філасофска-эстэтычнай думкі антычнасці і сярэдніх вякоў, класічнай расійскай і замежнай літаратуры, гісторыі сусвету. Хадзіў у тэатры, музеі, кансерваторыю. Пры зручным выпадку наведваў мемарыяльныя мясціны, звязаныя з жыццём вядомых дзеячаў расійскай культуры ў Падмаскоўі, Туле, Суздалі ды іншых гарадах Расіі. Да самага закрыцця бібліятэк праседжваў за кнігай ва ўтульных чытальных залах Масквы. Ну а на лета выпраўляўся ў археалагічныя раскопкі ў Крым, Керч, Каўказ, дзе па жменьцы перабіраў "друз гісторыі", стараючыся адчуць яго трапяткі і жывы подых. Здавалася, што няма той мяжы, за якую не хацеў бы зазірнуць яго апантаны і цапытлівы розум. Заўсёды творча актыўны, энергічны, камунікабельны, ён стаў душой студэнцкага асяроддзя. І яшчэ, як гэта ні парадаксальна гучыць, але менавіта тут, у Маскве, ён адчуў сябе беларусам. Сапраўдным. Беларусам не па-пашпарце, не па паходжанні, а па думках, справах, спадзяваннях. У той час у Маскве жыло даволі шмат беларускіх пісьменнікаў, гісторыкаў, грамадскіх дзеячаў. Прыкладам, той жа Уладзімір Дубоўка, Мікола Улашчык, Канстанцыя Буйла ды шмат іншых. Па розных прычынах апынуліся яны па-за межамі Беларусі - некаторыя па палітычных, а некаторыя па сямейных. Але аб'ядноўвала іх няўрымслівае і вернае служэнне свайму народу, сваёй зямлі. Да іх і пацягнуўся ўсёй сваёй юначай душой малады Генадзь Каханоўскі, бачачы ў іх людзей інтэлектуальна багатых, сапраўдных і па-чалавечы шчырых. А яны адказалі яму ўзаемнасцю, бо разумелі, што перад імі іх надзея і працяг. Іхняя будучыня.



Але як у народзе кажуць, са шчасцем заўсёды гора ходзіць. Прыйшло яно да Каханоўскага. Пачаў моцна недамагаць. Дала знаць і няўрымслівая актыўнасць, і празмерная працавітасць, ды студэнцкае поснае сtravаванне адгукнулася. Давялося пакінуць вучобу і вярнуцца на Беларусь. Уладкаваўся настаўнікам гісторыі ў Ленкаўскую школу, што на Маладзечаншчыне. Працавалася цяжка. Пражыўшы доўгі час па-за межамі Бацькаўшчыны і не ведаючы добра сітуацыі, якая склалася тут, ён з юнацкім запалам узяўся "дзяліцца назапашаным" з вучнямі ды і настаўнікамі. Але хутка прыйшло расчараванне. Стала зразумела, што яго веды, а тым больш беларускі патрыятызм былі тут непатрэбныя і непажаданыя. Такое не ўхвалялася. Ішла паўсюдная русіфікацыя, якая часта набывала формы звыроднага цынізму і хамства. Шмат у каго апускаліся рукі, бачачы такое становішча. Другі на месцы Каханоўскага таксама знайшоў бы аб'ектыўнае тлумачэнне таму, што адбываецца, і ціхенька адышоў убок. Пры гэтым дадаў бы: "Ілбом сцяну не праб'еш". Другі, толькі не Каханоўскі! У гэтым, фізічна кволым чалавеку, была такая сіла волі, такая вера ў сваю правату і распачатую справу, што любы вораг мог пазайздросціць яго мэтанакіраванасці.

Напачатку 60-х гадоў Каханоўскі вяртаецца ў Маскву і аднаўляецца ў інстытуце. Ізноў вучоба, паездкі, знаёмствы. Іншы раз даводзілася працаваць 15 гадзін у суткі, да поўнай знямогі. Такая праца давала плён. У 1963 годзе ў ліку лепшых студэнтаў ён заканчвае Маскоўскі педагагічны інстытут імя Герцэна. Адразу ж з'явілася прывабная прапанова і магчымасць застацца ў Маскве. Адмовіўся. Яго чакала Беларусь!

Калі вярнуўся на Бацькаўшчыну, нейкі час працаваў настаўнікам гісторыі ў сярэдняй школе № 3, а затым № 1 горада Маладзечна. Хоць апошняя і насіла імя Янкі Купалы, але беларускага там амаль нічога не засталося. Бачачы такое становішча з роднай мовай, Генадзь Каханоўскі арганізоўвае подпісы дзяцей і бацькоў у яе падтрымку. Лісты накіроўваюць у Міністэрства асветы БССР. І што тут пачалося! Малады настаўнік быў у тэрміновым парадку выкліканы да нейкага клерка ад адукацыі, які "імкнуўся пераканаць, што мова не памрэ, што ў вёсцы яшчэ шмат нацыянальных школ". І калі гэта не падзейнічала, то ў заключэнне з пагрозай сказаў: "Не мешайте естественному процессу. Иначе..." Што хавалася за тым "иначе" можна было і не тлумачыць. І так было зразумела. Але рук Каханоўскі не склаў. Стварыў школьны краязнаўчы гурток. І гэтую бяскрыўдную ініцыятыву не ўхвалілі. Пачалі плесці інтрыгі. Настаўніка абвінавацілі ў нацыяналізме. Мяшалі з брудам нават вучняў-гуртkоўцаў. Прыйшлося пакінуць школу і шукаць іншую працу.

У красавіку 1964-га, дзякуючы дапамозе добразычлівых людзей, ён уладкоўваецца ў Мінскі абласны краязнаўчы музей. Можна сказаць, што Генадзь Аляксандравіч стаяў ля вытокаў стварэння гэтай культурнай пляцоўкі нашага горада. Менавіта ў тым месяцы, калі ён пераступіў парог музея, у ім адчынілася першая экспазіцыя. Дзякуючы яго намаганням, музей узбагаціўся найкаштоўнейшымі экспанатамі, якія складаюць залаты запас ягоных фондаў. Рукапісы і ўспаміны беларускіх пісьменнікаў, драўляныя скульптуры Апалінарыя Пупко, кнігі і арнат Адама Станкевіча, асабістыя рэчы вядомых дзеячаў нацыянальнай культуры, карціны мясцовых і рэспубліканскіх мастакоў, скрыпка Міхала Клеафаса Агінскага ды шмат іншага, вернутага народу стараннямі руплівага сейбіта. Усё гэта плён ягоных клопатаў, пошукаў, недаспаных начэй, яго жыцця.

Прыблізна ў сярэдзіне 60-х пазнаёміўся Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі, а затым і пасябраваў з другім апантаным чалавекам, сапраўдным беларускім падзвіжнікам Міколам Іванавічам Ермаловічам. Доўгія, змрочныя дзесяцігоддзі цемрашальства і адкрытага беларусафобства вытрымалі гэтыя людзі, заўсёды намагаючыся падтрымаць адзін аднаго духоўна і маральна. Значна пазней, ужо на пачатку 80-х, у беларускім патрыятычным асяродку Маладзечна пачалі называць іх з любоўю і павагай за іхнюю духоўную нязломнасць і тытанічную працавітасць беларускімі Кірылам і Мяфодзіем. І было за што. Зроблена імі столькі, што, мусіць, не пад сілу сённяшнім цэлым інстытутам ды і грамадскім арганізацыям. Умелі яны, ох, як умелі, збіраць вакол сябе думаючых, не зачарсцвелых душой і сэрцам людзей. Праводзіць спакойную, не разлічаную на папулісцкі эфект працу, займацца тым, што табе пад сілу, што ты ўмееш, што дасць пэўны вынік толькі праз дзесяцігоддзі. Умелі працаваць на будучыню!

Але мала было ў той час такіх людзей, як Генадзь Каханоўскі і Мікола Ермаловіч. Хіба толькі стары беларускі дзеяч, цікавы паэт Юльян Сергіевіч падыходзіў да гэтай катэгорыі руплўцаў і змагароў. Пра яго шмат пазней Генадзь Аляксандравіч напіша: "Прыемным адкрыццём у той час акрамя М. Ермаловіча я лічу знаёмства з Юліянам Сергіевічам. Цудоўным чалавекам, вельмі самабытным паэтам. Гэта быў патрыёт да мазга касцей. Прайшоў усё: пекла турмаў, палон (дзе быў разам з Я. Брылём), ссылку, але душой не зачарсцвеў. Заставаўся жывым, ветлівым, добрым. Жыў у вёсцы Ленкаўшчына". Даражыў Генадзь Аляксандравіч і сяброўствам з Пятром Бітэлем, яшчэ адным пакутнікам і патрыётам. Адметны паэт, выдатны перакладчык, ён таксама "шмат хлябнуў гора", але заставаўся чалавекам дзейным, актыўным, шчырым. Вось бадай і ўсе, хто ствараў для Каханоўскага своеасаблівую аддушыну, хто ўсяляў веру ў свой народ, яго лепшую будучыню. Праўда, такія знаёмствы не засталіся незаўважанымі. Празмерна шэрая была грамадская атмасфера, празмерна шмат было "добразычліўцаў", якія лічылі за абавязак "язык тутэйшы прышчаміць". Не загадалі сябе доўга чакаць і пэўныя органы. Пачалі праводзіць штораз часцейшыя "прафілактычныя гутаркі" з надзеяй зламаць, спалохаць. Але пралічыліся. Не з тых людзей быў гэты чалавек з такім простым, але ўдумлівым поглядам, з той прыроднай адзнакай інтэлігентнасці на высакародным твары. У тыя хвіліны роспачы, безнадзейнасці і тугі стараўся ратавацца работай. І тады ягоную высокую і танклявую постаць можна было ўбачыць ля ссівелых муроў Крэўскага замка, альбо шпарка ідучага па брукаванках нашых заходнебеларускіх мястэчкаў, няспешна размаўляючага з пажылымі людзьмі ў засені старых дрэў маленькіх вёсак, ці роспачна-задуменнага каля напаўразбураных цэркваў і палацаў. І ведалі яго ўсе, пачынаючы ад нямоглых бабуль і заканчваючы першакласнікамі з далёкіх і закінутых школ нашага краю. Адны лічылі яго дзіваком, які так шмат марнуе часу на нікому не патрэбныя справы, другія – не пераставалі здзіўляцца яго працавітасці і ўпартасці. І мала хто разумеў, што ў асобе гэтага сціплага чалавека ён бачыць будучыню сваёй зямлі, сваёй Беларусі. Што па зямлі крочыць не зусім звычайны чалавек, а пасланец Надзеі, які павінен вярнуць у бездухоўныя і бяздумныя душы веру. Веру ў храм беларускага Хараства, Адвечнасці і Дабрыні. Але як мала было тых, хто гэта ведаў і разумеў!

## Падсумоўваючы зробленае.

Пачынаючы з 1962 года, калі ў Маладзечанскай газеце "Сцяг Кастрычніка" з'явілася першая яго публікацыя пра вайну 1812 года, Каханоўскі пачаў актыўна выступаць на старонках перыядычнага друку. Пісаў пра тое, што балела, што лічыў галоўным, стараўся не разменьвацца на дробязі. Таму і зробленае ім важкае і змястоўнае. Хоць іншы раз, што праўда, прыходзілі ў яго душу сумненні, якія выліваліся затым на паперу ў такіх вось арганічна шчырых і шчымлівых словах: «Нібы і ёсць здабытак, але якая цана яму? Сам Бог ведае. Шмат што даставалася крывёй і потам. І ўвесь час ішлі перашкоды». І ў такіх вось умовах, калі нават за права пісаць трэба было змагацца, здзейсненае Генадзем Аляксандравічам уражвае. Адзін пералік зойме не адну старонку друку. Таму абмяжуюся толькі эскізным, контурным абазначэннем іх прысутнасці.

Першая кніга, якая выйшла з пад яго пяра і пабачыла свет, была пра Маладзечна. І гэта натуральна. Бо пра што іншае можа напісаць чалавек, які любіць свой родны горад, які ганарыцца яго гісторыяй, яго славай, яго мінулым і будучым? Ды называлася яна вельмі проста і, адначасова, ёмка: "Маладзечна". Адбылася гэтая знамянальная падзея ў жыцці маладога даследчыка пры самым канцы далёкага ўжо 1971 года. Адразу ж з'явіліся і рэцэнзіі. Былі яны мудрыя і тактоўныя. Гэта натхняла. І ўжо ў 1974 годзе ў выдавецтве "Беларусь" пабачыла свет наступная кніга, якая была прысвечана гораду-суседу, гораду-спадарожніку Маладзечна, славутай Вілейцы. Затым, як з чарадзейнага куфэрка, пасыпаліся: "На запаветнай зямлі" (1974), "У родным краі" (1985), "Адчыніся, таямніца часу" (1984), "Прадвесне навукі" (1990), "А сэрца ўсё імкне да бацькоўскага краю" (1991), "Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі у XVI-XIX стст. (1984), "Повязь часоў" (1985). А былі яшчэ калектыўныя працы, дзе ім напісаны амаль 90 % матэрыялу. І таксама ўдумліва, разважна, перспектыўна. Да такіх прац трэба аднесці "Минский областной краеведческий музей" (1981), "Беларуская фальклярыстыка: Эпоха феадалізму" (1981), "Руплівец нашай старасвеччыны: Яўстах Тышкевіч" (1991). Апошняя напісана ў саўтарстве з сынам, кандыдатам гістарычных навук Алесем Каханоўскім. І як на ўсё часу хапала? Пры сваёй занятасці, слабым здароўі, шматлікіх вандроўках і суцэльных перашкодах. Вось у каго трэба вучыцца, як працаваць, як ашчаджаць кожную хвіліну і як не марнаваць час на пустыя размовы і забавы. І ў кожнай з тых кніг заўсёды можна знайсці нешта новае, цікавае, важкае, што падштурхоўвае, натхняе, дае надзею на заўтрашні дзень. Менавіта з ягоных кніг мы ўпершыню даведваліся пра Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю і яе знакамітых выпускнікоў. Дзякуючы ім, мы ведаем пра маленькую Ракуцёўшчыну, якая прытуліла і абагрэла слыннага Максіма Багдановіча. Разам з Каханоўскім мы праходзілі сцежкамі жыцця Янкі Купалы, Адама Гурыновіча, Фелікса Тапчэўскага, Яўстаха Тышкевіча, Адама Кіркора, Міхася Чарота, легендарных нашаніўцаў: Старога Уласа, Лявона Лобіка, Язэпа Шпэта, Юзю Шчупака ды іншых.

Плённая музейная дзейнасць Генадзя Каханоўскага працягвалася даволі значны адрэзак часу – з 1964 па 1982 год. За гэты перыяд ён прайшоў шлях ад навуковага супрацоўніка да дырэктара музея. Здолеў абараніць кандыдацкую дысертацыю па тэме "Станаўленне археалогіі і гістарычнага краязнаўства Беларусі ў эпоху феадалізму". Здавалася, што ўсё ў ягоным жыцці складвалася бясхмарна, але гэта было толькі вонкава. Толькі сям'я ды, напэўна, нешматлікія сябры ведалі, якіх высілкаў яму гэта каштавала. У 1982 годзе ён быў запрошаны ў Мінск у Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР на пасаду старшага навуковага супрацоўніка. Доўга вагаўся, але ўсё ж тую прапанову прыняў. Ізноў праца, шматлікія паездкі па архівах, бібліятэках, знаёмства з цікавымі людзьмі... У 1991 годзе становіцца загадчыкам аддзела ў Нацыянальным навукова-асветным Цэнтры імя Францішка Скарыны. А крыху больш, чым праз год, або, дакладна, 23 верасня 1992 года абараніў доктарскую дысертацыю. Амаль адначасова скончыў працу над новай кнігай пад назвай "Гісторыя беларускага краязнаўства і музеязнаўства. Дарасійскі перыяд"...

Па асенняй зямлі ішоў сейбіт. І ўмела, зладжана кідаў жытнія зярняты ў толькі што ўзаранае поле. Ішоў упэўнена, годна, бо ведаў, што гэта зямля дадзеная яму Богам. І хацелася сейбіту ўбачыць плён свае працы. І падала зерне ў раллю...

Памёр Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі 15 студзеня 1994 года і пахаваны на мясцовых могілках вёскі Насілава. На помніку, зробленым па праекце скульптара Алеся Шатэрніка, высечаныя словы: "А ўсё ж такі мы жывём".

***Міхась Казлоўскі.***



 

# Слова пра сябра

Вось ужо некалькі год, як няма сярод нас паважанага Генадзя Аляксандравіча Каханоўскага, з якім я меў гонар быць у добрых сяброўскіх стасунках на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Памятаю, як яшчэ восенню 1993 года, вярнуўшыся да дому з бальніцы, ён меў надзею падмацавацца, а затым зноў вярнуцца да актыўнай грамадскай і навуковай дзейнасці. "Мне б толькі пратрымацца да вясны, перажыць зіму, дачакацца яркіх сонечных дзён", – гаварыў ён падчас нашай сумеснай вандроўкі па сцяжынках парка, які рассцілаўся за яго домам па вуліцы Таполевай. " А як выйду на пенсію і цалкам вызвалюся ад пэўных службовых абавязкаў, грунтоўна займуся сабраным даследчым матэрыялам, які стосам паперы ляжыць на рабочым стале", - так марыў у той час наш суайчыннік, доктар гістарычных навук. Адданы справе Беларушчыны чалавек, імя якога назаўсёды ўвайшло ў нацыянальную гісторыяграфію. А ў студзені наступнага года яго не стала: пачварная хвароба так і не выпусціла са сваіх пякельных кіпцюроў. Калі я ішоў на пахаванне, здалёк было бачна ля яго дома мноства людзей з вянкамі, а над галовамі сабраўшыхся ля ганка лунаў бела-чырвона-белы сцяг. Гэты нацыянальны сімвал быў яшчэ дзяржаўны, а адраджэнцкія пераўтварэнні здаваліся незваротнымі. Як вядома, пасля 1991 г. у беларускай навуковай і творчай інтэлігенцыі адчуваўся значны ўздым. Пачалі выходзіць з друку кніжкі і публікацыі, ў тым ліку і яго, якія да пэўнага часу існавалі толькі ў рукапісах. Гэта абнадзейвала і стымулявала творчасць і нашага земляка, жыццё якога абарвалася так нечакана.

А пазнаёміўся я з ім у пачатку шасцідзесятых, калі пасля непрацяглай хрушчоўскай адлігі наступілі замаразкі і, здавалася, канца не будзе гэтаму ідэалагічнаму застою. Генадзь Аляксандравіч, скончыўшы Маскоўскі педінстытут, вярнуўся ў Маладзечна і стаў працаваць выкладчыкам гісторыі ў адной з сярэдніх школ горада. Ён часта стаў заходзіць да мяне ў былы Дом піянераў, дзе я быў кіраўніком студыі выяўленчага мастацтва. На той час я працаваў над карцінай, прысвечанай паўстанню нарачанскіх рыбакоў у перыяд польскага панавання. Амаль з першых дзён знаёмства між намі ўсталяваліся даверлівыя сяброўскія стасункі. Спрыяла гэтаму і тое, што абодва па паходжанні вяскоўцы, з аднаго раёна, амаль суседзі, бо калі ісці нацянькі, то ад яго роднай вёскі Дамашы да маёй Літвы крыху больш за 10 км. Але галоўным чыннікам, мацаваўшым нашыя адносіны – гэта прыналежнасць да беларускасці, да каранёў свайго народа, яго гісторыі і культуры. Сустракаліся мы і на кватэры Міколы Ермаловіча, вядомага гісторыка, які жыў у Маладзечне і таксама займаўся навуковай даследчай дзейнасцю.

Гэтае асяроддзе дапамагада мне і надалей фармавацца ў нацыянальна-патрыятычным духу, парасткі якога былі закладзены ў раннім юнацтве, асабліва ў перыяд з 1942 па 1944 гады. Калі я быў вучнем выдатнага заходнебеларускага грамадска-асветніцкага дзеяча Барыса Уладзіміравіча Кіта.

Асабліва застаюцца ў памяці сумесныя з Генадзем Аляксандравічам вандроўкі па роднай Маладзечаншчыне. Ракуцёўшчына, Ласі, Радашкавічы, Вязынка, Гарадок і многія вёскі і паселішчы, дзе ён збіраў патрэбныя яму звесткі для навуковых краязнаўчых распрацовак, а я папаўняў свае ўражанні ад прыгожых і мілых майму сэрцу вобразаў роднай прыроды.

Вельмі прыхільна паставіўся краязнавец Г. Каханоўскі да майго твора "Выступленне Браніслава Тарашкевіча перад сялянамі Заходняй Беларусі", які стаў ужо хрэстаматыйным. Заўсёды цікавіўся маімі тэматычнымі пейзажамі, творчымі планамі. Цікавіўся справамі беларускага выяўленчага мастацтва наогул, будучы знаёмы з многімі мастакамі рэспублікі. Вельмі спагадліва ставіўся да майго асабістага жыцця, асабліва, калі давялося мне перажыць вялікае бацькоўскае гора.

Ушаноўваючы памяць аб нашым суайчынніку, мы павінны няспынна клапаціцца аб далейшым развіцці і пашырэнні беларускай нацыянальнай культуры і навукі, чаму Генадзь Каханоўскі прысвяціў усё сваё жыццё!

***Кастусь ХАРАШЭВІЧ,***
***мастак.***

ЭПІСТАЛЯРНАЯ СПАДЧЫНА

## Лісты Г. Каханоўскага да В. Міхасёнка

**В. Міхасёнак** – паэт, які працаваў настаўнікам роднай мовы на Маладзечаншчыне. Цяпер жыве ў Слуцку.

**М. Улашчык** – доктар гістарычных навук. Жыў у Маскве.

---

Дарагі браце Вячаслаў!

Віншую цябе са святам, поспехаў на новым месцы, здароўя!

*Генадзь.*

Прызнацца, мяне засмуцілі твае ўцёкі з Маладзечаншчыны. Такая работа плануецца. Збіраем матэрыял для калектыўнай кнігі "Маладзечанскі раён". Як бы ты тут прыгадзіўся. Мог бы дараваць Паставы твае, але ж...

Там у Слуцку жыве мой стары знаёмы Рыгор Віктаравіч Родчанка. Прывітай яго: Слуцк, Рэвалюцыйная,1, кв.53. Ён інвалід вайны. Слуцк ведае выдатна, як і родную літаратуру. Будзь з ім далікатней.

Усяго найлепшага. Пішы, дзе працуеш, дзе палюеш?

*Генадзь Каханоўскі.*
*30.X.88 г.*

Шаноўны Вячаслаў Васільевіч!

Працую над невялічкай краязнаўчай кніжачкай (вядома ж, маладзечанскай). І хацеў бы слоўца добрае сказаць пра сябе і пра іншых людзей. У прыватнасці, ці змог бы ты мне напомніць імя і прозвішча (па мужыку) той жанчыны каля былой польскай заставы на граніцы (пазней школка была там). І як тую вёсачку называць? Ты мяне туды вазіў. На гарышча лазілі. Я там некралог М. Багдановіча знайшоў. Словам, ты лепш памятаеш.

Напішы пару слоў.

*З пашанай, Генадзь Каханоўскі.*
*23.IV.90 г.*

Дарагі калега!

Дзякуй за аператыўнасць і за поўны адказ на маю просьбу!

Спачуваю, што перагружаны па школе і грамадскай працай. Але ж трэба. Усё гэта пачэсна. Радуюся, што і краязнаўства не аказалася на "перыферыі" клопатаў.

Слуцк, вядома ж, добра, але ж мне Паставы бліжэй.

Ці спрабаваў, браце, выдаць уласны зборнік паэзіі? Цяпер жа ёсць бібліятэчка "Маладосць". Можа, маладыя калегі трохі "пасунуцца" і дадуць месца даўняму рупліўцу. Варта пагаварыць з кіраўніцтвам часопіса, можа, паспрыяюць.

*Усяго найлепшага!*
*5.V.1990 г.*

Добры дзень, Вячаслаў Васільевіч!

Прачытаў я "Урокі Альгерда Абуховіча". Памылкі ёсць і істотныя, і больш, чым мне расказваў тады па тэлефоне. Больш таго, гэты матэрыял паступіў і ў "Мінскую праўду". Толькі яго апярэдзіў супрацоўнік музея Слуцкага, і яны далі матэрыял музейшчыка, а Радчанку адхілілі. Проста той матэрыял паступіў пазней.

Я раіўся ў рэдакцыях. І мне вопытныя журналісты разважылі так: паколькі матэрыял дала раёнка, то лепш было б, каб адрэагавалі на яго самі случакі, паколькі Радчанка найперш іх пакрыўдзіў, адасобіўшы Слуцк ад усёй Беларусі. Ды і ў пачатку публікацыі закралася памылка, нібыта католікам даюць два імёны: адно каталіцкае, а другое праваслаўнае. Тут трэба проста пагаварыць са старымі каталікамі, і яны скажуць, што імёны даюцца пры нараджэнні і пры біжмаванні. І абодва каталіцкія.

Я пра ўсё не буду пісаць, бо гэта вельмі зразумела.

Я ж, напэўна, прыслухаюся парады журналістаў і параю В. В. Міхасёнку, як случаку, выказацца ў цэнтральным друку. Магчыма далучыцца яшчэ хто з настаўнікаў. Пастараюся напісаць вельмі тактоўна, без лішніх эмоцый і нагрувашчванняў.

Нядаўна быў на Гродзеншчыне. Там справы складаней: католікі ідуць сцяной на праваслаўных, а тыя на католікаў. Мусіць гэта яшчэ страшней, чым "ЧП раённага маштабу" Радчанкі. Каму там і як займацца краязнаўствам?

Яшчэ раз заклікаю да тактоўнасці і трымацца чалавечай этыкі.

Поспехаў і настаўніцкай працы!

*З павагай, Генадзь Каханоўскі.*
*25.VIII.90 г.*

P.S. Пакажы гэты лісток рэкламны настаўнікам, можа, замовяць у слуцкай кнігарні.

Дарагі Вячаслаў Васільевіч!

Віншую цябе з юбілеем, з пераваламда новай фазы жыцця, калі даводзіцца рабіць ва ўсім падрахункі, калі чалавек задумываецца, для чаго ён жыў. Вось я і жадаю, каб гэтыя падрахункі былі багатыя, плённыя дзеля карысці беларускага народа!

Моцнага здароўя!

*Генадзь Каханоўскі.*
*12.I.1991.*

Дарагі Вячаслаў Васільевіч!

Сардэчна вітаю з Новым годам і Днём нараджэння, поспехаў у працы, у творчасці і моцнага здароўя, каб жыў стойкі, як гэты дуб!

*Генадзь Каханоўскі.*

P.S. Я выбраны старшынёй краязнаўчай камісіі ў Фондзе культуры, увёў у сваю камісію і цябе, будзем засядаць 15.I. у 17-00 у Траецкім прадмесці (Старажоўская, 5), трэці паверх. Уведзены ў абл. Савет т-ва аховы помнікаў гіст. і культ. Што датычыць кнігі, то яна ў тоўстых вокладках ніколі не выходзіла. То быў абман аўтара і чытачоў. І яшчэ адно, што ў цябе напісана пра М. Багдановіча (вершы, допісы і г. д.)?



Магіла Генадзя Каханоўскага.

## Лісты М. Улашчыка да Г. Каханоўскага

Дарагі Генадзь Аляксандравіч!

Лічу бясспрэчным, што калі Вы мяркуеце пісаць манаграфічную працу, то на яе трэба глядзець як на дысертацыйную.

Якую браць тэму? На адлегласці гэта пагодзіць цяжка, але толькі магу сказаць, што жывучы ў Маладзечне і пэўна не маючы магчымасці на месяцы выязджаць у розныя гарады на працу ў архівах, трэба браць тэму, якую можна распрацаваць у асноўным па апублікаваных крыніцах. Выходзячы з такіх меркаванняў мне здаецца, што Вам або трэба ўзяць тэму аб семінарыях у самым шырокім сэнсе, г. з. разглядаючы зараз усю сістэму асветы на Беларусі ў нейкі пэўны час, ці вызначыць тэму з гісторыі гарадоў Беларусі XVI ст. (у тым аспекце, які не закрануў Капыскі). У першым выпадку Вы маеце вельмі багаты архіўны фонд папячыцеля Віленскай акругі у Цэнтральным гіст. архіве ў Вільні, у другім – апублікаваныя матэрыялы ў серыі "Акты Виленской комиссии" і іншых выданн. Думаю, што ТБШ кранаць не варта.

Калі ў Вас ёсць магчымасць працаваць больш-менш доўгі час у Мінскім архіве, то ёсць вельмі цікавая тэма – след аб Радзівілаўскім архіве, у прыватнасці аб яго складзе, бо маючы такі багаты архіў ніхто з даследчыкаў не ведае ў поўнай меры яго складу.

Наогул не спяшайцеся з вызначэннем тэмы. Гэта трэба прадумаць вельмі ўважліва. Можа ў Вас ёсць больш канкрэтна звыш таго, што Вы напісалі.

*15.VI.70 г. Улашчык*

Дарагі Генадзь Аляксандравіч!

Дзякуй Вам за кнігу. Я нават не ведаў, што яна выйшла, а покуль бы прасіў, то і дастаць праз Мінск было б, пэўна, немагчыма. Жучкевіч да гэтага (прынамсі, было так нядаўна) часу ходзіць у рэдакцыю, маючы намер абвергнуць мяне, даказаць, што я ў тапаніміцы нічога не разумею. Але і мая рэцэнзія не надта пайшла на карысць. Усе дэфекты навучання ў нашых інстытутах ці ун-тах так і лезуць з яго новай кнігі. Ён такі ж нават і не прабаваў праглядзець паказнікі розных археаграфічных выданняў, натуральнае чалавечае прозвішча ў яго Іваноў, і таму, напрыклад, назву Петрыкаў ён выводзіць ад прозвішча Петрыкаў (гэта зусім упэўнена), а не ведае, што Петрыкаў у не надта нават старых крыніцах зваўся Петрыкавічы і г.д. Да яго не дайшло, што тапаніміст павінен быць моваведам з шырокім кругаглядам, інакш заўсёды будзе не майстрам, алё партачом. Пра гэту кнігу пісаць нічога не буду, каб не мела выгляду людаедства, але наогул каму-небудзь варта было б адзначыць.

Пра Вашу тэму, пра педагогіку і грамадскія падзеі. Я скончыў кнігу пад назваю "Нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі феадальнага часу" і мне, кажучы пра дзейнасць Віленскай камісіі, давялося крануць тых, хто ўзначальваў камісію, якія вымаганні былі адносна гэтай установы, часткова крануць публіцыстыку. Думаю, што і Вам, кажучы пра семінарыі, проста неабходна будзе звярнуцца да тых асоб, якія ўзначальвалі на Беларусі палітыку, у першую чаргу Мураўёва з усімі яго дакументамі (вялікая колькасць яго "Запісак" знаходзіцца ў Цэнтр. арх. у Ленінградзе, у фондзе Заходніх камітэтаў), затым Карнілава, які ўзначальваў школьную палітыку і надрукаваў некалькі кніг, у тым ліку і пра Мураўёва, варта будзе крануць Мілавідава, што многа пісаў і пра асвету на Беларусі. Наогул, я так і разумею, што праца Ваша ў асноўным будзе не педагагічная, а гістарычная.

Жадаю поспехаў у рабоце. У мяне гэты год цяжкі, адпачынку покуль няма і невядома, калі буду яго мець, а адпачыць было б трэба.

*22.VII.70 г. Улашчык.*

Дарагі Генадзь Аляксандравіч!

Дзякуй Вам за харошы сардэчны артыкул. Не заўсёды ў жыцці даводзілася чытаць пра сябе такое.

Гадавіну тут справілі добра. З Мінску прыехала сястра, былі Бялькевічы, Аляксеевы. Незадоўга да таго я ездзіў у Вільню. Там адчуваў сябе вельмі добра, але прыехаўшы, лёг і ляжаў амаль да самага свайго дню, калі ўзняўся і зноў стаў у добрым стане.

Некалькі пра краязнаўства. У свой час, у 1936-1937 г.г., будучы ў Ульянаўску, я запісаў па памяці ўсю краязнаўчую дзейнасць ва ўн-це. Зараз гэтыя сшыткі знаходзяцца ў Аддзеле рукапісаў Бібліятэкі АН. Першы краязнаўчы паход (наш, самастойны) быў нешта ў кастрычніку 1925 г., калі мы з Шутавым знайшлі Банцараўскае гарадзішча. Другі – летам 1926 г., ізноў удвух з Шутавым два тыдні хадзілі па ніжняй Свіслачы. Самы эфектны быў 1927 г. У гэтым годзе была арганізавана Вялікая комплексная экспедыцыя на Тураўшчыну. Удзел прымала нешта больш за 20 чалавек, сярод іх П. Бузук, батанік Збіткоўскі і (здаецца) Сербаў.

Ідэю паехаць на Тураўшчыну падказаў я. А прычына была такая. У 1911 г. мой брат скончыў лясную школу ў Вяляцічах. Гэта была падзея надзвычайная не толькі для нашай сям'і, але для ўсяе ваколіцы, бо раней вышай чым настаўнік ці тэлеграфіст ніхто не выбіраўся. Брата прызначылі на работу ў Азяраны каля Турава. Там ён прабыў да пачатку першай вайны. Успаміны брата пра Палессе, пра тыя бязмежныя лясы, пра асаблівы быт палешукоў, пра старасвецкі Тураў выклікалі ў мяне вялікае жаданне пабачыць усё гэта. Калі вызначалася месца куды паехаць, я выказаўся за Тураўшчыну, і гэта ідэя спадабалася ўсім. Першага мая 1927 г. мы з Юзікам Бараноўскім у якасці паслоў прыехалі ў акруговы горад Мазыр, нас адразу прыняў старшыня акруговага выканкому і, не пярэчачы, абяцаў даць 400 рублёў, з абавязкам, што напісаную пра Тураўшчыну кнігу надрукуем у Мазыры. Наступная экспедыцыя 1928 г. была на Полаччыну, але яна ўжо не мела такога размаху, як Тураўская.

*21.II.1981 г. Улашчык.*

Дарагі Генадзь Аляксандравіч!

Вярнуўся дамоў тры дні назад. Троха парэпаравалі, але наогул вынікі будуць відаць праз месяц ці больш. Спадзявацца на што-небудзь добрае не трэба, бо з аднаго боку хвароба (яна сталая – хворая печань), з другога ўзрост.

Адносна Шнаркевіча. Калі я падараваў яму сваю першую кнігу, то зрабіў надпіс, што ніхто не зрабіў у маім духоўным жыцці такога ўплыву, як ён. І гэта праўда. Але быў ён у нас настаўнікам нешта з канца 1919 году да вясны (18.III.1920 г. ён выводзіў нас на дэманстрацыю). Прыватна мы з ім ніколі не гаварылі, толькі на ўроках; я нават да 1931 г. не ведаў яго прозвішча, і назваў яго другі выкладчык-беларус Гурскі Міхась, які пасля быў дырэктарам тэатру (зараз Купалаўскага), калі мы разам плылі Вяткаю.

Я думаю, што пры такой беднасці можна толькі напісаць пра тую школу, калі настаўнікі былі дарэвалюцыйныя, і што стала, калі прыйшоў Шнаркевіч.

Калі змагу, то ў канцы ліпеня прыеду ў Мінск да сястры, а пасля (калі выйдзе), то ў новы творчы дом.

*29 мая 1986 Улашчык.*

**КУФЭРАК № 13**

*Адказны за падрыхтоўку матэрыялаў Міхась Казлоўскі.*
*Удзел падрыхтоўцы "Куфэрка" прымалі ўдзел Таіса Трафімава, Алесь Капуцкі, Анатоль Акулік.*

